**Гродна**
№7 (489),
1 красавіка 2018

www.slowo.grodnensis.by



# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ХРЫСТОС УВАСКРОС! АЛЕЛЮЯ!

***Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры! Дарагія Дыяцэзіяне!***

*Хрыстос Уваскрос! Алелюя! Гэтае пасланне радасці гучыць сёння ў нашых сэрцах. Мы адзначаем найстарэйшае, а разам з тым найважнейшае хрысціянскае свята – урачыстасць Уваскрасення Пана. У Пасхальнай таямніцы здзейснілася справа нашага збаўлення: Езус Хрыстус назаўсёды перамог усе сілы зла, граху і смерці, а сэрцы сваіх вызнаўцаў напоўніў надзеяй цалкам новага жыцця ў вечнасці.*

*Паўстаўшы з мёртвых, Божы Сын спаўняе ўласнае абяцанне: "І вось Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку" (Мц 28, 20). Уваскрослы Хрыстос застаецца з намі, пілігрымуе з чалавекам па шляхах жыцця. З'яўляецца нашым Панам і Збаўцам у кожным месяцы і ў кожны час. Яго прысутнасць у слове Евангелля, у святых сакрамантах, у супольнасці Касцёла падтрымлівае нас у штодзённым паміранні для граху і жыцці для Бога (параўн.: Рым 6, 11).*

*Адзначаючы таямніцу нашага адкуплення, жадаю ўсім Вам, дарагія Браты і Сёстры, глыбокага спазнання незвычайнай блізкасці Пана і Яго бясконцай любові. Няхай уваскрослы Хрыстос умацуе ў кожным з нас надзею і ажывіць веру. Няхай сваёй ласкай нястомна адкрывае людскія сэрцы на моц Яго любові, на дар міру, прабачэння і паяднання. Няхай глыбокая сустрэча з Адкупіцелем прынясе нам як мага больш прыгожага плёну ў жыцці асабістым, сямейным і грамадскім.*

*Духоўна яднаючыся ў перажыванні велікоднай радасці, жадаю ўсім Вам, дарагія Дыяцэзіяне, Божага бласлаўлення, добрага здароўя і шчодрых ласкаў ад уваскрослага Збаўцы.*

*Вясёлых свят!*

***Аляксандр Кашкевіч***
*Біскуп Гродзенскі*

**"Варта ісці за Езусам па шляху крыжа, які вядзе да радаснага святла Уваскрасення". Папа Францішак**




**НЯДЗЕЛЯ УВАСКРАСЕННЯ ПАНА**
**Ян 20, 1–9**

У першы дзень тыдня Марыя Магдалена прыйшла да магілы раніцай, калі было яшчэ цёмна, і ўбачыла, што камень адсунуты ад магілы. І пабегла, і прыбыла да Сымона Пятра і да другога вучня, якога любіў Езус, і сказала ім: "Забралі Пана з магілы, і не ведаем, дзе паклалі Яго".

Тады выйшаў Пётр і другі вучань, і пайшлі да магілы. Пабеглі абодва разам. І другі вучань пабег наперадзе хутчэй за Пятра і прыбыў да магілы першы. Заглянуўшы, убачыў, што ляжаць палотны, аднак не ўвайшоў. Тады прыйшоў за ім Сымон Пётр і ўвайшоў у магілу, і ўбачыў палотны, якія там ляжалі, і хусту, якая была на галаве Ягонай, не з палотнамі яна ляжала, а асобна, скручаная на іншым месцы. Тады ўвайшоў і той другі вучань, што прыбег першы да магілы, і ўбачыў, і паверыў. Бо яны яшчэ не ведалі Пісання, што трэба было Яму ўваскрэснуць з мёртвых.

## ПАВЕРЫЦЬ ВА ЎВАСКРОСЛАГА

Пасля сустрэчы з уваскрослым Езусам у жыцці Апосталаў усё змянілася. Напалоханыя і поўныя сумненняў, яны сталі адважнымі сведкамі Добрай Навіны. Ужо не баяліся кінуць у твар праведырам людзей: "Не можам маўчаць пра тое, што мы бачылі і чулі" (Дз 4, 20). Пётр, які, схлусіўшы, адрокся ад Хрыста перад брамніцай, здолеў стаць перад натоўпам, каб папракнуць яго наўпрост: "Рукамі бязбожных вы забілі Справядлівага" (параўн.: Дз 2, 23). Многія былі ўзрушаны гэтымі словамі, таму пыталіся, што павінны рабіць. Адказ Пятра быў просты: паверыць ва Уваскрослага (параўн.: Дз 2, 37–38).

Мы сёння таксама патрабуем той мужнасці Апосталаў і веры ў змёртвыхпаўсталага Хрыста. Так проста, на першы погляд, аднак так складана. Пустая магіла запаўняе нашу ўнутраную пустату і асвячае цемру, задавальняе імкненне да вечнасці і дадае адвагі. Гэта брама Жыцця, дзе заўсёды будзе гучаць радаснае "Алелюя".

**Ці веру я ва Уваскрослага?**

**Што перашкаджае мне ўдасканальваць сваю веру?**

**II ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
*(БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ)*
**Ян 20, 19–31**

Калі быў вечар таго першага дня тыдня, і дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя ад страху перад юдэямі, прыйшоў Езус і стаў пасярэдзіне, і сказаў ім: "Спакой вам!". І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і бок. Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана. Тады Езус зноў сказаў ім: "Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і я пасылаю вас". І, сказаўшы гэта, дыхнуў, і кажа: "Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца".

Тамаш, адзін з Дванаццаці, называны Блізня, не быў з імі, калі прыйшоў Езус. Іншыя вучні казалі Яму: "Мы бачылі Пана". Але ён сказаў ім: "Калі не ўбачу на руках Яго ран ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не паверу".

І праз восем дзён зноў былі ў доме вучні Ягоныя і Тамаш з імі. Хоць дзверы былі замкнёныя, прыйшоў Езус, стаў пасярэдзіне і сказаў: "Спакой вам!". Потым кажа Тамашу: "Дай сюды палец твой і паглядзі на рукі Мае; дай руку тваю і ўкладзі ў бок Мой; і не будзь няверуючым, але веруючым". Тамаш, адказваючы, сказаў Яму: "Пан мой і Бог мой!". Езус кажа яму: "Ты паверыў, Тамаш, таму што ўбачыў Мяне. Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў". Шмат іншых цудаў, пра якія не напісана ў гэтай кнізе, учыніў Езус перад вучнямі сваімі. Гэтае ж напісана, каб вы паверылі, што Езус ёсць Месія, Сын Божы, і каб, веруючы, вы мелі жыццё ў імя Ягонае.

## ЛЮБОЎ СЭРЦА

Няма больш магутнай сілы, чым міласэрная любоў Бога да чалавека. Яна была аб'яўлена на крыжы, дзе памёр Езус, каб вывесці чалавецтва з цемры, робячы магчымым вызваленне з нявол злога. Яна перамагла смерць, перамагла грэх, перамагла д'ябла.

Міласэрная любоў Бога надала сэнс цярпенню і смерці, упісаным у нашае жыццё. Таму Створца заўсёды спадарожнічае чалавеку – самотнаму, хвораму, пакутуючаму, зняважанаму, які перажывае балючы вопыт. Раздзяляе з ім цяжкасці і непрыемнасці, падтрымлівае і ўмацоўвае духоўна. Аднак Ён можа зрабіць гэта толькі пры адной умове: калі, поўныя даверу, дазволім Богу дзейнічаць у нас.

**Ці стараюся давяраць Богу ў кожнай жыццёвай сітуацыі?**

**Ці давяраю Пану асабліва тады, калі вымушаны несці цяжар няшчасцяў і клопатаў?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**


*Кс. Юрый Марціновіч*

# Пазнаць і паверыць

*Смерць зышлася ў бітве з жыццём, і жыццё затрыумфавала. "Перамога паглынула смерць. Смерць, дзе твая перамога? Смерць, дзе тваё джала?" (1 Кар 15, 54–55). Хрыстос – хоць памёр на крыжы – валадарыць сёння жывы! Бог уваскрасіў яго на 3-ці дзень (параўн.: Дз 10, 40).*

Божы Сын трыумфуе... Але не для таго, каб абудзіць у нас эмоцыі ці на хвіліну адвярнуць увагу ад нягод паўсядзённага жыцця. Езус перамагае, каб раз і назаўсёды знішчыць самага небяспечнага людскога ворага – вечную смерць – і адкрыць для чалавека браму, што вядзе ў Краіну Жыцця.

Як жа нам неабходна гэтая перамога Хрыста! Збаўца вызваляе чалавека ад граху, які не дазваляе спаўна цешыцца жыццём і пагружае ў роспач. Перамагае д'ябла, які схіляе да зла, і перамагае чалавечую слабасць, служачы нам прыкладам, удзяляючы сваю моц, каб маглі паўтарыць за св. Паўлам: "Хто адлучыць нас ад любові Хрыста: няшчасце ці прыгнёт, ці пераслед, ці голад, ці галеча, ці небяспека, ці меч? Над усім гэтым мы атрымліваем поўную перамогу праз Таго, хто палюбіў нас" (Рым 8, 35. 37).

Божы Сын пераадолеў грэх, смерць і д'ябла. А разам з Ім і мы, паколькі праз хрост сталі ўдзельнікамі Яго смерці і ўваскрасення. Дзякуючы сакраментальнай ласцы чалавек становіцца здольны ператварыць усё сваё жыццё ў сведчанне ўваскрасення Збаўцы, не паддаючыся людской слабасці. Ні смерць, ні пякельныя сілы ўжо не маюць улады над чалавекам. Уваскрослы Пан выйшаў з магілы і стаіць сёння сярод нас.

**Дарагія Чытачы!**

Будзьма верагоднымі сведкамі веры ў Хрыста, які перамог смерць. Няхай сёлетняе святы Уваскрасення Пана ўмацуюць веру ў Яго прысутнасць сярод нас. Няхай бляск Велікоднай раніцы асвеціць дарогі і прывядзе да Таго, хто з'яўляецца Дарогай, Праўдай і Жыццём.

Так, як Апосталы, давайце расказваць бліжнім, што Хрыстос дарэшты палюбіў кожнага з нас, бо пайшоў на смерць, а на 3-ці дзень уваскрос і жыве! Давайце выйдзем насустрач братам і сёстрам, каб яны маглі паверыць у Езуса і Яго змёртвыхпаўстанне, каб любоў ім усё растлумачыла, каб – падобна, як мы – пазналі Любоў і паверылі ёй!

## Дарагія Чытачы газеты "Слова Жыцця"!

*У чарговы раз, дзякуючы Божаму Провіду,*
*мы маем магчымасць перажываць святы Уваскрасення Пана.*
*У той жа час гэта нагода і заклік, каб даваць усім людзям і цэламу свету*
*сведчанне нашай веры ў Езуса Хрыста – Божага Сына,*
*які "дзеля нас, людзей, і дзеля нашага збаўлення сышоў з Неба, (...) стаў чалавекам,*
*(...) быў замучаны і пахаваны, і на трэці дзень уваскрос, паводле Пісання".*

*Няхай сустрэча з Уваскрослым у Пасхальнай таямніцы*
*ўзбуджае ў кожным з нас сапраўдную сілу жыцця,*
*якая грунтуецца на ўпэўненасці, што мы заўсёды любімыя*
*і атрымліваем прабачэнне ад Таго, хто перамог зло і смерць.*

*На гэты час, прасякнуты спевам велікоднага "Алелюя",*
*калектыў рэдакцыі газеты Гродзенскай дыяцэзіі*
*"Слова Жыцця" жадае Вам сапраўднай радасці,*
*што паходзіць ад сустрэчы з Панам.*



*Радаснага Алелюя!*

***Рэдакцыя "Слова Жыцця"***

# – Шукаем настаўніка ад Бога. Не бачылі? – Вось ён, аддае сваё сэрца дзецям...

Моладзь у Касцёле

***У жыцці кожнага чалавека ёсць асаблівa значныя людзі, ролю якіх у лёсе складана пераацаніць. Сярод іх – першы настаўнік, які навучыў чытаць, пісаць, а таксама думаць і любіць. Ён зазвычай становіцца першым узорам для пераймання. І якое шчасце, калі такі чалавек сябруе з Богам і можа шмат чаго пра Яго распавесці...***

## Настаўнік і катэхет

Настасся Мішкура паходзіць з парафіі св. Мікалая, біскупа, у Геранёнах (дэканат Іўе). Выхоўвалася ў каталіцкай сям'і, дзе хрысціянскія каштоўнасці прывіваліся з маленства. *"Разам з бацькамі і бабуляй я кожную нядзелю прыходзіла на св. Імшу ў наш мясцовы касцёл,* – успамінае дзяўчына. – *Менавіта яны сталі прыкладам малітвы і заклалі пачатак станаўлення маёй веры. Часта ўспамінаю, як ва ўзросце 8-10 гадоў з радасцю бегла ў святыню на ружанцовую малітву, рараратнія Імшы, Крыжовы шлях або маёвыя набажэнствы...".*

Пасля заканчэння сярэдняй школы Настасся вырашыла пайсці дарогай настаўніцтва, аб чым заўсёды марыла. Але гэта было толькі адным з моцных жаданняў у яе жыцці. У глыбіні душы дзяўчыне заўсёды хацелася пазнаваць Бога на лекцыях або практычных занятках, каб пасля дапамагаць у душпастырскай дзейнасці ў роднай парафіі.

Рэалізацыі гэтага жадання паспрыяла месца вучобы – Баранавічы, дзе дзейнічае Каталіцкі катэхетычны каледж ім. Зыгмунта Лазінскага. Так, пачынаючы з 3-га курса вучобы ва ўніверсітэце, дзяўчына стала наведваць лекцыі і ў каледжы. *"Гэта быў складаны, але адначасова насычаны прыгодамі час,* – узгадвае Настасся. – *Праблемы падчас навучання ўзнікалі тады, калі не хапала часу на падрыхтоўку да экзамена або заліку, асабліва калі сесіі ва ўніверсітэце і каледжы адбываліся паралельна. Ведаю, што Нябесны Айцец мяне ніколі не пакідаў і заўсёды трымаў і трымае ў цені сваіх крылаў".*

Настасся з задавальненнем успамінае студэнцкія гады ў катэхэтычным каледжы, дзе знайшла шмат сяброў. *"Мы не толькі сустракаліся на занятках, але і шмат вольнага часу праводзілі разам,* – гаворыць дзяўчына. – *Супольна ладзілі вясёлыя вечары: калядныя сустрэчы, карнавал на Дзень кансэкраванага жыцця, пачатак і заканчэнне навучальнага года... Часта збіраліся ў лядовым палацы, каб пакатацца на каньках, або за кубкам гарбаты, каб падзяліцца сваімі жыццёвымі перажываннямі".*

## Галоўнае – ніколі не здавацца!

Ужо амаль 4 гады Настасся працуе ў Іўі настаўніцай пачатковых класаў. Адначасова з тым дапамагае святару ў катэхетычнай працы ў Геранёнах.

*"Некалькі гадоў таму я запрасіла мясцовую моладзь далучыцца да Біблійнай групы, каб разам збірацца, разважаць і дзяліцца адзін з адным Божым словам,* – распавядае дзяўчына. – *Сёння маё сэрца цешыцца тым, што гэтая моладзь, калі становіцца дарослай і выязджае на вучобу ў вялікія гарады, усё роўна працягвае заставацца актыўным касцяком нашай геранёнскай парафіі. З гэтай групай маладых людзей мы разам адпачываем, падарожнічаем, адзначаем Дні нараджэння".*

У бягучым навучальным годзе Настасся паспрабавала стварыць Біблійную групу таксама для малодшых удзельнікаў. Дзяўчына спадзяецца, што падрастаючае пакаленне па прыкладзе старэйшай моладзі стане апорай мясцовага касцёла ў Геранёнах.

Вядома, як і любы катэхет, Настасся таксама сустракаецца з цяжкасцямі ў працы з дзецьмі і моладдзю. Але, па словах дзяўчыны, гэта не павінна перашкаджаць таму, каб быць там, дзе ты пакліканы служыць. *"Кожную раніцу трэба прасіць Бога аб неабходных дарах на надыходзячы дзень, каб быць «алоўкам» у Яго руках і пісаць у вачах выхаванцаў тую гісторыю, якую жадае ад мяне Стварыцель,* – падкрэслівае Настасся. – *Варта ўвесь час паказваць сваім жыццём вялікую Божую любоў да людзей. Галоўнае – ніколі не здавацца! Часам можа не хапаць фізічных сіл, каб выканаць наступнае заданне або зрабіць крок насустрач жыццёвай праблеме. Але неабходна набірацца моцы і крочыць далей, бо ты не адзін – побач усемагутны і любячы Бог".*

## За маладымі – будучыня Хрыстовага Касцёла

Падчас кожнай нядзельнай св. Імшы для дзяцей у касцёле ў Геранёнах гучаць звонкія галасы хлопцаў і дзяўчат. Такім чынам маладыя людзі праслаўляюць сваім спевам Бога. Настасся акампануе ім на гітары. Як зазначае, моладзь ахвотна праяўляе жаданне навучыцца іграць на музычным інструменце. Калісьці і яе навучыла гэтаму манаская сястра. Разам з ёй Настасся іграла падчас св. Імшы, перараадольваючы свой страх і хваляванне. А цяпер вось сама дзеліцца музычнымі азамі з усімі жадаючымі.

*"З групай гэтых дзяцей і моладзі – схольцай «Езусавыя ноткі» – мы штогод прымаем удзел у дэканальным фестывалі калядак і пастаралак «Gloria in excelsis Deo» у Іўі,* – гаворыць дзяўчына. – *Памятаю, як калісьці сама ўдзельнічала ў гэтым фестывалі як канкурсант. Час змяніўся – і цяпер я прымаю ўдзел як кіраўнік групы".*

Настасся таксама прыцягвае да пастаноўкі сцэнак і пантамім у парафіі на Божае Нараджэнне, нядзелю Божай Міласэрнасці, урачыстасць Усіх Святых. *"На рэпетыцыях з кожным удзельнікам стараемся лепш распазнаць яго вобраз, падбіраючы неабходныя пазіцыі ў сцэнах і аналізуючы выказванні. Ужо перад выступленнем ствараем касцюмы героям і падбіраем рэквізіт",* – тлумачыць дзяўчына.

Штодня назіраючы за маладым пакаленнем падчас сваёй працы, Настасся робіць выснову, што малады чалавек – гэта "іскра" ў сучасным грамадстве, дзякуючы якой можна распаліць сэрцы іншых людзей". І тут вельмі важна, каб гэта была Божая іскра. *"На жаль, я не заўсёды заўважаю за маладымі людзьмі праяўленне маральных і этычных норм,* – з жалем адзначае дзяўчына. – *Часам моладзь зневажае сваіх аднагодкаў або старэйшых людзей, не звяртаючы ўвагі на тое, што бліжні – гэта таксама годная асоба, якую стварыў Бог. Але я ўпэўнена, што на Зямлі шмат «промняў Божай Любові», якія праз прыклад свайго жыцця нясуць усяму свету супакой, павагу і прабачэнне. Праз рукі гэтай моладзі Нябесны Айцец чыніць дабро. Мяркую, за маладымі і актыўнымі людзьмі – вялікая Божая моц і будучыня Хрыстовага Касцёла!".*

Анеліна Пакачайла



Разам з героямі інсцэніраванага прадстаўлення ва ўрачыстасць Усіх Святых



Настасся і схолька дзяцей і моладзі "Езусавыя ноткі"

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*У хвіліны, калі сумненні і страх сціскаюць сэрца, нам абавязкова неабходна прачнуцца. Яна дазваляе ўпарадкаваць блытаніну ў думках і пачуццях, каб дзейнічаць належным і разумным чынам. Першым крокам у гэтым працэсе, які вядзе да перамогі над страхамі, з'яўляецца іх выразнае акрэсленне, каб не аказалася, што марнуем час і энергію, становячыся ахвярай нясталых прывідаў, пазбаўленых аблічча. З гэтай мэтай я заахвочваю ўсіх зазірнуць у сябе і назваць уласныя страхі па імені. Задайце сабе пытанне: што мяне непакоіць, чаго баюся больш за ўсё менавіта сёння, у канкрэтнай сітуацыі, якую перажываю? Што мяне блакуе і не дазваляе ісці наперад? Чаму не маю адвагі, каб прыняць важныя рашэнні, якія мушу прыняць? Не бойцеся сумлення паглядзець на свае страхі, прызнаць іх такімі, якія яны ёсць, і змірыцца з імі. [...] У Святым Пісанні 365 разоў знаходзім выраз "не бойцеся" ва ўсіх яго формах. Можна сказаць, нібы Пан хоча, каб мы ў кожны дзень года былі свабодныя ад страху. За бояззю ніколі не павінна заставацца апошняе слова, асабліва чынам для нас, хрысціян. Страх мусіць стаць нагодай, каб здзейсніць акт веры ў Бога... а таксама веры ў жыццё!*

Фрагмент паслання на XXXIII Сусветны дзень моладзі

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Наша задача як святароў у супольнасці Касцёла заключаецца ў нясенні людзям Добрай Навіны аб збаўленні, каб яе пасланне, падобна як алей, даходзіла да зраненых сэрцаў, супакойвала іх боль, улівала ў іх радасць, любоў, міласэрнасць і прабачэнне. Нашым асабістым сведчаннем, стылем цэлебрацыі святых сакраментаў, дабрынёй, лагоднасцю і адчувальнасцю да іншага чалавека мы павінны спрыяць таму, каб кожны вернік – загружаны працай, стомлены шэрай штодзённасцю, засмучаны і занепакоены – сустракаючыся з намі, адчуваў, што сапраўды атрымаў Добрую Навіну, што на ім спачыў міласэрны і поўны спачування позірк Збаўцы. Чым больш у нашай святарскай паставе будзе пакоры, дабрыні і бескарыслівай службы бліжняму, тым больш мы будзем прыпадабняцца да Таго, у чым адзіным і вечным святарстве ўдзельнічаем і які "прыйшоў не для таго, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыццё сваё дзеля адкуплення многіх" (Мк 10, 45). Да такой пастаравы трэба імкнуцца кожны дзень.*

Фрагмент казання, прамоўленага падчас св. Імшы Хрызма ў гродзенскай катэдры, 29.03.2018




◆ *Апостальскі Пасад прызначыў 500 тыс. даляраў на аднаўленне акружэння капліцы Гроба Гасподняга ў Ерусаліме і яшчэ стольк ж – на завяршэнне рэстаўрацыі базілікі Нараджэння Пана ў Бэтлееме. Сродкі на аднаўленне акружэння капліцы будуць накіраваны пасля таго, як супольнасці, якія кіруюць святыняй (праваслаўная, армянская і каталіцкая) створаць сумесны камітэт, што будзе займацца гэтай справай. У Бэтлееме значная частка работ ужо выканана, і ёсць надзея, што ўжо ў бліжэйшы час рэстаўрацыя базілікі завяршыцца.*

◆ *Папа Францішак прызначыў 3-ох новых суддзяў Касцёльнага Трыбунала ватыканскай дзяржавы. Адным з іх з'яўляецца польскі францысканец канвентуальны а. Роберт Лежагускі. Святар нарадзіўся 7 верасня 1974 года ў Гданьску. Мае навуковыя ступені магістра права і тэалогіі, абараніў дактарат па кананічным праве. У 1997 годзе ўступіў у Ордэн Братоў Меншых Канвентуальных. Святарскія пасвячэнні атрымаў у 2004 годзе. У 2008–2012 гадах працаваў на тэалагічным аддзяленні Універсітэта ім. Адама Міцкевіча ў Познані. У 2012 годзе як місіянер вырушыў у Кенію, дзе быў выкладчыкам кананічнага права. Затым у 2016 годзе распачаў працу ў Апостальскім Пэнітэнцыярыі ў Рыме.*

◆ *Помнік папе Францішку адкрыты ў Ліване. Гэта першы манумент цяперашняга біскупа Рыма на Блізкім Усходзе. Ён павінен стаць знакам прысутнасці хрысціян на гэтых тэрыторыях і заахвотай да мірнага суіснавання тут вернікаў розных рэлігій. Канфлікты веравызнаўчага характару ў краіне засяроджваюцца вакол атрымання кантролю над тэрыторыямі, якія належаць хрысціянам. Помнік пастаўлены ў акрузе Бабда ў заходняй частцы краю, які, у большасці, насяляюць шыіцкія супольнасці.*

◆ *Каталіцкі святар а. Гай Чапдэлейн, які ўзначальвае капеланства канадскай арміі ў чыне генерал-маёра, прызначаны ганаровым капеланам брытанскай каралевы Лізаветы II. Ён стане першым каталіцкім прапаведнікам у каралеўскай капліцы з часоў Якава II (1685–1688 гг.), апошняга караля-католіка на брытанскай зямлі. На думку святара, гэта "адчувальны доказ экуменічнай адкрытасці" Лізаветы II, якая на сваёй пасадзе з'яўляецца таксама старшынёй Англіканскай Царквы ў Англіі і прэсвітэрыянскай (кальвіністкай) супольнасці ў Шатландыі.*

◆ *Сучасныя тэхналогіі дазваляюць атрымаць падрабязны 3D малюнак для раздрукоўкі пасля ультрагукавога даследавання. Урачы выкарыстоўваюць яго, каб лепш кантраляваць здароўе і развіццё дзіцяці. Бацькі могуць убачыць і патрымаць сваё яшчэ не народжанае дзіця. Такая ідэя вельмі спадабалася многім маці. Яны сцвярджаюць, што гэта цудоўнае пачуццё – гледзячы на мадэль ужо пасля родаў, успамінаць: "Так выглядала маё дзіця, калі было ва ўлонні".*

*credo.pro; gosc.pl; niedziela.pl*

# Вялікодныя звычаі



*У розных краінах святкаванне выглядае асаблівым чынам. У Германіі сябрам уручаюць яйкі, пафарбаваныя ў зялёны колер, а ў Швецыі цэлая сям'я з ахвотай бавіцца ў "тачанкі"*

*Урачыстасць Уваскрасення Пана адзначаецца ў свеце па-рознаму. Некаторыя звычаі могуць нам падацца нават дзіўнымі, аднак кожны з іх здаўна ўкаранёны ў традыцыі асобнай краіны.*



*У ЗША на Вялікдзень жанчыны ўдзельнічаюць у конкурсах, дзе выбіраюць найлепш аздоблены святочны галаўны ўбор*

Адным з самых цікавых велікодных звычаяў у Еўропе можа ганарыцца **Ірландыя.** У Вялікую суботу ў гарадах гэтай краіны адбываецца марш, падчас якога людзі дэманструюць стомленасць з-за доўгага посту і жаданне хутчэй распачаць святкаванне. Марш узначальвае мясцовы мяснік. Ён нясе селядзец, падвешаны на кіі, які жыхары збіваюць дубінкамі або любымі іншымі прадметамі, што трапляюць ім у рукі. Збіты селядзец, які сімвалізуе пост, выкідваецца ў раку. Пасля чаго на той жа кій мяснік чапляе аздоблены кветкамі барановы кумпяк, што мае звеставаць час святкавання.

У **ЗША** існуе цікавы звычай насіць вялізныя святочна аздобленыя капелюшы. На іх могуць красавацца яйкі, зайчыкі, кураняты, курачкі і мноства іншых упрыгожанняў. Кожны год жанчыны і дзеці ўдзельнічаюць у конкурсах, падчас якіх выбіраюцца найпрыгажэй аздобленыя галаўныя ўборы.

У Велікодны панядзелак прэзідэнт Злучаных Штатаў штогод арганізуе катанне яек. Традыцыя сягае 1878 года, калі на газоне перад Белым домам упершыню адбыліся гэтыя спаборніцтвы па перакочванні пісанак.

У **Афрыцы** з нагоды Вялікадня касцёлы і дамы мастоў аздабляюць так званымі "вітэнгэ" і "канга". Яны маюць форму матылькоў, а ствараюцца з кветак і лістоў бананавага дрэва. Жыхары Афрыкі спяваюць міжнародныя хрысціянскія гімны, дадаючы да іх элементы ўласнай культуры. Таму спевам і малітвам часта спадарожнічае біццё ў бубны, а жанчыны гучна крычаць, выдаючы гукі ў высокім рэгістры.

У **Аўстраліі** на велікодныя звычаі цікавым чынам паўплывала "кампанія супраць трусоў", якія наносяць вялікую шкоду мясцовым палям. Папулярны, між іншым у Францыі, звычай хаваць ад дзяцей у садзе шакаладныя яйкі прыйшоў у краіну з пэўнымі зменамі: яйкі, што некалі "падкідваў" велікодны трус, пасля ўступлення ў сілу ўзгаданай кампаніі стаў "хаваць" трусіны бандыкут (звярок з сямейства сумчатых, які прыгадвае зайца сваімі непрапарцыянальна доўгімі вушамі).

У **Арменіі** да святочных звычаяў належыць выпяканне хлеба, які называецца "хэорэк", бо жыхары краіны вераць, што Божая Маці, стоячы пад Хрыстовым крыжом, мела пры сабе хлеб, які стаў чырвоным з-за крыві Збаўцы.

У **Грэцыі, Швецыі і Балгарыі** яйкі фарбуюць у чырвоны колер, што з'яўляецца сімвалам новага жыцця і дабрабыту.

У **Германіі і Аўстрыі** распаўсюджана традыцыя "Ostereiertitschen" (біткі). Яна заключаецца ў біцці званымі ўкрутую яйкамі, пакуль адно з іх не трэсне.

У **Фінляндыі** Вялікдзень – свята свечак. У гэты дзень гарады асвячаюцца зянем тысяч светачаў.

У **Ліване** вялікае значэнне надаецца касцёльным абрадам. Згодна з традыцыяй, кожны ліванец, каб належным чынам падрыхтавацца да Велікодных свят, павінен атрымаць бласлаўленне ў некалькіх касцёлах. Павінен таксама апрануцца на св. Імшу ў новую вопратку і абутак, што з'яўляецца своеасаблівым бачным сімвалам абнаўлення.

У **Вялікабрытаніі** нетыповы для нас звычай мае месца ў Велікодны панядзелак, калі хлопцы наведваюць дзяўчат, прыносячы з сабой прыгожа зроблены стул. Дзяўчаты сядаюць на яго, а маладзёны тройчы падымаюць іх у паветра. Узамен хлопцы атрымліваюць пацалунак ці грошы.

*Кінга Красіцкая*

# Святочныя дэкарацыі на Вялікдзень

***Адчуванне Вялікадня ў некаторай ступені могуць падоўжыць святочныя дэкарацыі. Яны звычайна змяшчаюцца на бачным месцы, нагадваючы пра светлы і радасны дзень Уваскрасення нашага Пана.***



Існуе шмат розных варыянтаў велікоднага дэкаравання. Некаторыя аддаюць перавагу аздобам з натуральных матэрыялаў, "ажыўляючы" іх. Гэта, напрыклад, вазоны з высаджанай у іх пшаніцай. Так на працягу нейкага часу можна назіраць за тым, як прарастае зеляніна, што сімвалізуе жыццё. Па жаданні кампазіцыю абвязваюць каляровай стужкай або ўпрыгожваюць іншымі дэкаратыўнымі дэталямі: яйкам, галінкай вярбы, кавеньчыкамі.

*Сёння ў крамах можна знайсці шмат розных зарыхтовак для вырабу велікодных дэкарацый. Можна таксама выкарыстоўваць усё, што знаходзіцца пад рукой: пластыкавыя бутэлькі, тканіну, гузікі і г. д.*

Трэба адзначыць, што яйка – цэнтральны элемент амаль што ў кожнай велікоднай кампазіцыі. Яно з'яўляецца сімвалам плоднасці, перамогі Езуса над смерцю. Яйка выкарыстоўваецца як дэталь (напрыклад, у галінкавых вянках, кветкавых кошыках) або ў якасці самастойнай кампазіцыі (з нітак, паперы).

Дарэчы, велікодныя вянкі – даволі распаўсюджаная дэкарацыя ў доме. Іх можна змясціць як на гарызантальнай паверхні (пакласці), так і на вертыкальный (падвесіць). Звычайна калі вянок упрыгожвае стол, у цэнтры кампазіцыі ставіцца свечка, што сімвалізуе Святло, якое асвячае цемру. Для аздаблення могуць быць выкарыстаны абсалютна любыя дэталі, у тым ліку фігуркі кураня, зайцаў, баранчыкаў.

Яшчэ адным базавым элементам для стварэння велікоднай кампазіцыі з'яўляецца кошык. Многія робяць яго ўласнаручна з лазы, тканіны (на каркасе) або нават шчыльнай паперы і ўпрыгожваюць. У такі кошык можна засяліць сурвэтку, пакласці пачастунак і пайсці ў госці. Гаспадары будуць вельмі рады, калі пакінеце ім такую рэч у падарунак. Усё, што зроблена сваімі рукамі, заўсёды высока цэніцца і дастаўляе ўладальніку асаблівую радасць.

У апошні час папулярнасць набіраюць таксама велікодныя дэкарацыі ў празрыстых вазах. У іх можна ствараць разнастайныя кампазіцыі, абыгрываючы, скажам, кантрасты (дробны і буйны матэрыял, прыродны і штучны). Адна з асаблівасцей і ў той жа час перавага такога віду дэкору – тое, што дэталі ў ёй не злучаюцца, не склейваюцца паміж сабой. Такім чынам, кампазіцыю можна без цяжкасцей разабраць, а празрыстую вазу – далей выкарыстоўваць для дэкарацый на любое іншае свята: Божае Нараджэнне, імянінны вечар і інш.

Напрыканцы варта падкрэсліць, што нават звыклая свечка ў форме яйка ці галінка вярбы здольны стварыць у доме святочную атмасферу. Канешне, рашучае значэнне мае тое, што ў душы, але падобныя яскравыя атрыбуты з'яўляюцца для нас наглядным напамінам пра ўрачыстасць, якую нядаўна перажывалі. Гледзячы на іх, сэрцы мімаволі напаўняюцца радасцю і цяплом. А ці не гэтага так часта прагнем у шэрай штодзённасці?

*У велікодных кампазіцыях могуць прысутнічаць элементы самых разнастайных колераў. Пераважаюць чырвоны, жоўты, аранжавы і, канешне, зялёны.*

*Вольга Сяліцкая*

# Чорна-белая пісанка – візітная картка Сапоцкіна



Станіслаў Змітровіч з ахвотай перадае ўнікальную тэхналогію на разнастайных майстар-класах

***Яйкі з'яўляюцца неад'емным атрыбутам велікоднага стала. Сёння вернікі ўсё часцей дэкаруюць іх пры дапамозе налепак, трафарэтаў і штучных фарбавальнікаў. Аднак сюды ні ў якім разе нельга аднесці жыхароў мястэчка Сапоцкін, якія прытрымліваюцца тутэйшай традыцыі і ствараюць арыгінальныя чорна-белыя пісанкі – сапраўдныя творы мастацтва з багатай гісторыяй і сімволікай.***

Традыцыя роспісу велікодных яек у Сапоцкіне вядомая здаўна. У 2013 годзе дадзены элемент нематэрыяльнай спадчыны Гродзеншчыны быў узяты пад ахову і ўнесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Адной з захавальніц цікавай і самабытнай тэхнікі сапоцкінскага "пісанкарства" з'яўляецца што перад тым, як пачаць распісваць яйкі, іх трэба добра вымыць з мылам, абсушыць і пакласці ў якую-небудзь пасудзіну, каб часам не разбілася. Затым трэба нагрэць воск – і ўжо можна прыступаць да самай адказнай часткі працэсу. *"Для нанясення васковага ўзору выкарыстоўваецца спецыяльны інструмент – «шпількa». Гэта самаробная*

У залежнасці ад гэтага і падбіраецца ўзор. Найбольш распаўсюджаны арнамент сапоцкінскіх пісанак – круг-разетка, які размяшчаецца па цэнтры яйка, свабодныя плошчы запаўняюцца паўразеткамі, кропкамі, ланцужкамі. Сярод малюнкаў пераважаюць птушкі, кветкі, яловыя галінкі.

рэцэпт фарбавання яек прыроднымі пігментамі выкарыстоўваўся стагоддзямі. Зараз ён не заўсёды прыносіць добры рэзультат. Часам пісанкі адрозніваюцца колерам, хоць фарбаваліся ў адным і тым жа настоі. Таксама здараецца, што фарба ўвогуле не бярэцца. Гэта залежыць ад таго, чым кармілі курэй, выкарыстоўваліся яйкі свойскіх ці інкубатарных птушак.

Нягледзячы на тое, што стварэнне пісанак лічыцца жаночай справай, у Сапоцкіне ёсць прыклад, калі роспісам велікодных яек займаецца мужчына. Гэта Станіслаў Змітровіч. Ён валодае адметным творчым почыркам, які выпрацоўваўся на працягу не аднаго дзесятка гадоў. ***"Мастацтва роспісу яек я пераняў ад свайго дзядзькі. Ужо ў 14 гадоў спрабаваў уласнаручна аздабляць пісанкі. Спачатку атрымлівалася не вельмі добра, а пасля набіў руку, навучыўся выводзіць разнастайныя ўзоры,*** – гаворыць майстар. – ***Штогод раблю каля 200 пісанак для сваякоў і сяброў. Кажуць, што ў мяне хораша атрымліваецца. Напэўна, гэта вынік шматгадовай практыкі, бо ні ў якой мастацкай школе я не вучыўся".***

Мужчына падкрэслівае, што сапраўдная пісанка не псуецца вельмі доўга. Ее гадамі можна захоўваць: жаўток і бялок проста высахнуць унутры, калі не перамяшчаць яйка з месца на месца.

Яшчэ народны ўмелец узгадвае, што з пісанкай у Сапоцкіне было звязана шмат абрадаў: ***"На Вялікдзень дарослыя і дзеці традыцыйна забаўляліся ў «біткі», высвятляючы, у каго найбольш моцнае яйка. Калі надвор'е дазваляла, ладзілі таксама качанне яек".***

Спадар Станіслаў распавядае, што разам з іншымі майстрамі ён стараецца перадаваць свае веды і ўменні ўсім зацікаўленым. ***"На базе Сапоцкінскага цэнтра культуры і народнай творчасці праходзяць майстар-класы па роспісе велікодных яек. У іх прымаюць удзел жыхары бліжэйшых вёсак, вучні школ, а таксама турысты, якія наведваюць нашае мястэчка. Цешуся, што людзі цікавяцца, пераймаюць нашу тэхніку аздаблення і вязуць дадому яйкі-сувеніры. Гэта значыць, што традыцыя будзе жыць",*** – з задавальненнем адзначае народны ўмелец.

*Кінга Красіцкая*

*У 2017 годзе ў Сапоцкіне быў адкрыты ўнікальны музей пісанкі, дзе прадстаўлена каля паўтысячы экспанатаў. Яны выкананы ў незвычайнай тэхніцы роспісу, якой валодаюць выключна мясцовыя жыхары дадзенага рэгіёна. Акрамя гэтага, у музеі прадстаўлены шматлікія экспанаты, выкананыя ў сучаснай тэхніцы. Усе яны збіраліся на экспазіцыю з бліжэйшых вёсак. Сімвалам мясцовай традыцыі з'яўляецца вялікая, каля 2-ух метраў увышыню, пісанка, размешчаная на цэнтральнай плошчы каля культурна-турыстычнага цэнтра.*

Антаніна Юрчэня. Майстрыха распавядае, што распісваць яйкі традыцыйным спосабам яна навучылася ў сваёй матулі. ***"Чорна-белыя пісанкі – візітная картка і сапраўдны гонар нашай мясцовасці,*** – гаворыць спадарыня Антаніна. – ***Іх нельга стварыць без спецыяльнага фарбавальніка – настою кары дуба, альхі, альховых шышак і ржавага жалеза. Яго трэба пачаць рыхтаваць загадзя, прыкладна за 2 месяцы да Вялікадня, каб фарба паспела настаяцца, стала трывалай на якасці і набыла глыбокі чорны колер".***

Жанчына распавядае, ***прылада, якая ўяўляе сабой драўляную палачку з убітым у тарэц маленькім цвічком,*** – тлумачыць майстрыха. – ***Вялікім і ўказальным пальцамі трымаем яйка на канцах, шпільку апускаем у воск і наносім узор".***

Спадарыня Антаніна падкрэслівае, што нават у адной і той жа майстрыхі не сустрэнеш 2-юх абсалютна аднолькавых пісанак, паколькі разнастайнае камбінаванне кропак і кропелек дае безліч варыянтаў узору. Як правіла, на выбар таго ці іншага матыву ўплывае форма яйка: яно можа быць круглае ці прадаўгаватае.




Антаніна Юрчэня адзначае, што галоўнае ў роспісе пісанак – тварыць з добрым і адкрытым сэрцам

***"Пасля нанясення ўзору яйка трэба апусціць у фарбавальнік,*** – працягвае дзяліцца сакрэтамі майстрыха. – ***Каб атрымаць чорнае адценне, пісанку трэба вытрымаць у настоі не менш за 12 гадзін, затым дастаць яйка пры дапамозе лыжкі з дзірачкамі і асцярожна зняць воск, выкарыстоўваючы сухую анучку. Пасля трэба нацерці яйка алеем ці кавалкам сала і адпаліраваць шарсцяной тканінай. Тады пісанка будзе гладкая і бліскучая".***

Спадарыня Антаніна таксама адзначае, што

## Сапоцкін запрашае на Свята пісанкі!

*Падчас святкавання будзе арганізаваны майстар-клас, дзе народныя ўмельцы прадэманструюць розныя тэхнікі роспісу велікодных яек, у тым ліку і знакамітую сапоцкінскую пісанку. Галоўнай падзеяй стане ўрачыстае адкрыццё 2-ой залы музея пісанкі, куды ўсім жадаючым можна будзе наведацца з экскурсіяй. Рамеснікі ўразяць гасцей мерапрыемства багаццем разнастайных вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, а творчыя калектывы пацешаць прысутных сваімі канцэртнымі праграмамі. Яшчэ адной з асаблівасцей свята стануць выстава велікодных вербаў і выстава-кірмаш велікоднай выпечкі.*

***Мерапрыемства пройдзе 8 красавіка каля культурна-турыстычнага цэнтра.***

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ




### Дакумент моладзі аб Касцёле прадстаўлены ў Ватыкане

***У ім распавядаецца пра тое, як выглядаюць Касцёл і свет вачамі маладога пакалення, а таксама якія чаканні адносна служэння Касцёла маюць маладзёны.***

*Дакумент з'яўляецца падсумаваннем перадсінадальных дэбатаў моладзі з усяго свету, што трывалі апошні час. Складаецца з 3-ох частак. Першая прысвечана выклікам і магчымасцям, якія стаяць перад сучаснай моладдзю; другая распавядае пра веру і пакліканне, праніклівасць і спадарожніцтва маладым; трэцяя – аб фармацыйных і душпастырскіх дзеяннях Касцёла.*

*Гэта першы ў гісторыі ватыканскі дакумент, цалкам падрыхтаваны маладымі людзьмі. У Пальмовую нядзелю ён быў перададзены папе Францішку. Гэта зрабіў прадстаўнік Панамы – краіны, дзе ў наступным годзе пройдуць Сусветныя дні моладзі.*




### Каля сотні тысяч чалавек вырушылі на Экстрэмальны Крыжовы шлях

***Набажэнствы адбываліся на тэрыторыі 18-ці розных краін у больш за 300 мясцовасцях. Для гэтай мэты было падрыхтавана звыш 700 трас.***

*У бягучым годзе сваё блаславенне ўдзельнікам Экстрэмальнага Крыжовага шляху перадаў Святы Айцец Францішак. Пантыфік заахвоціў іх даверыць Хрысту сябе, свае сем'і, сяброў і непрыяцеляў, каб у кожным з іх пасяліўся супакой і моц укрыжаванага і ўваскрослага Хрыста.*




### Маладыя палякі самыя рэлігійныя ў Еўропе

***82% палякаў ва ўзросце 16–29 гадоў дэкларуюць сябе католікамі.***

*З думкай аб сёлетнім Сінодзе Біскупаў на тэму моладзі Універсітэт св. Марыі ў Твікенгеме (Вялікабрытанія) і Каталіцкі інстытут у Парыжы (Францыя) падрыхтавалі справаздачу пра рэлігійнасць маладых еўрапейцаў. Рэзультаты паказваюць, што палякі з'яўляюцца сёння найбольш набожным народам старога кантынента. На 2-ім месцы знаходзяцца літоўцы, на 3-ім – славенцы, а на наступным – ірландцы.*

*Даследаванне таксама высветліла працэнт католікаў, якія па меншай меры раз на тыдзень, за выключэннем важных свят, удзельнічаюць у св. Імшы. Тут таксама лідарамі з'яўляюцца палякі.*

## Каляндар падзей

*1 красавіка*
Нядзеля
Уваскрасення Пана.

*1–8 красавіка*
Велікодная актава.

*8 красавіка*
Нядзеля Божай
Міласэрнасці.

*9 красавіка*
Урачыстасць
Звеставання Пана.

Дзень святасці жыцця.
Заахвочваем
далучацца
да "Духоўнага
ўсынаўлення"
ненароджаных дзяцей
і малітвы ў інтэнцыі
зачатага жыцця.

*13 красавіка*
27-ая гадавіна
заснавання
Гродзенскай дыяцэзіі
і прэканізацыі
кс. біскупа Аляксандра
Кашкевіча.

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
Разважанні
над Божым словам.
Выходзіць на Першым
нацыянальным канале
Беларускага радыё
кожную нядзелю ў 8.00
у Гродне на 96,9 FM,
у Свіслачы на 100.8 FM.

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
Радыёвяшчанне
з Апостальскай
Сталіцы.
Штодзённа ў 22.10
на 98,1 FM – у Гродне,
Ваўкавыску, Шчучыне,
Лідзе, Мастах і побач
з гэтымі гарадамі;
на 99,2 FM – у Брэсце
і побач з ім;
у 20.00 на кароткіх
хвалях 6185 і 11715 кГц.;
у 20.00 і 6.20
на спадарожніку
"Eutelsat Hotbird 13"
на канале
"Radio Vaticana
Telepace". Кожную
нядзелю ў 8.55
на хвалях Першага
нацыянальнага канала
Беларускага радыё
і на Канале "Культура"
Беларускага радыё.
У інтэрнэце
на старонцы vatican.by.

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Красавік***

Каб беспрацоўныя
і бяздомныя жыхары
дыяцэзіі знайшлі
годныя ўмовы
для сябе і сваіх сем'яў.

## НАВІНЫ



### Падрыхтоўка да Вялікадня

Напярэдадні свят Уваскрасення Пана ў шматлікіх парафіях дыяцэзіі адбыліся велікапосныя містэрыі. Каб наблізіць вернікам смерць і муку Збаўцы, у касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне тэатр імя св. Яна Паўла ІІ арганізаваў прадстаўленне пад назвай "Справа Езуса з Назарэта". У парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы адбылося інсцэніраванае набажэнства Крыжовага шляху, у якім ролі выканалі прадстаўнікі мясцовай супольнасці. Крыжовы шлях вуліцамі горада быў праведзены ў Гродне, Сапоцкіне і Іўі. Шматлікія вернікі далі публічнае сведчанне сваёй веры ў Езуса Хрыста. Пасля набажэнства Крыжовага шляху на Святой, ці Францішканскай, гары ў Ашмянах мясцовыя жыхары на знак сваёй веры па традыцыі ўсталявалі чарговы вялікі крыж.

У Пальмовую нядзелю вернікі ва ўсім свеце, у тым ліку і ў Гродзенскай дыяцэзіі, распачалі перажыванне Вялікага тыдня – найважнейшага часу ў літургічным годзе. У дні Пасхальнага Трыдуума засяродзіліся над падзеямі, якія цалкам перамянілі людскую гісторыю. Самай чаканай стала Нядзеля Уваскрасення Пана.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Дзень засяроджання адбыўся ў Гродзенскай ВДС. Духоўным айцом для навучэнцаў семінарыі на гэты час стаў кс. Тадэвуш Крыштопік. Алюмны мелі магчымасць нанова паразважаць над глыбінёй сваіх адносін з Богам. Некалькімі днямі пазней на чале з кс. прэфектам Андрэем Лішко яны наведалі дом-інтэрнат у Галавічполі.

Каля 60-ці юнакоў з розных куткоў дыяцэзіі сустрэліся ў семінарыі на рэкалекцыях па распазнанні жыццёвага паклікання, каб разважаць над тэмай "Наблізіцца да таямніцы Крыжа".

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




Напярэдадні свят Уваскрасення Пана супрацоўнікі і валанцёры дыяцэзіяльнага "Карытас" арганізавалі дабрачынны кірмаш і акцыю "Велікодны падарунак". На кірмашы, які прайшоў у касцёле Божай Міласэрнасці ў Гродне, былі прадстаўлены вырабы ручной работы, віншавальныя паштоўкі, дэкаратыўныя свечкі, печыва. Акцыя "Велікодны падарунак" прайшла ў адным з гродзенскіх гіпермаркетаў. Валанцёры тлумачылі пакупнікам, які ўклад можна зрабіць, каб падтрымаць патрабуючых. Вырučаныя сродкі з праведзеных акцый накіраваны на падтрымку дзяцей з праблемамі па стане здароўя, дзяцей са шматдзетных сем'яў, а таксама самотных і патрабуючых у межах акцыі "Мабільная дапамога".

Разам з дыяцэзіяльным "Карытас" манахіні з Кангрэгацыі Святой Сям'і з Назарэта арганізавалі сустрэчу для бедных і людзей без пэўнага месца жыхарства. Між іншым, прысутныя атрымалі пафарбаванае яйка на знак адраджэння жыцця і перамогі Хрыста над смерцю.

### АДНЫМ РАДКОМ



• Літургічная служба алтара "Каласанс" у Шчучыне папоўнілася на 8 новых міністрантаў і 4 новых лектара. • Ва ўрачыстасць св. Юзафа ў гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя маліліся за Папу на пенсіі Бенедыкта XVI (Ёзафа Ратцынгера) і дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі Юзафа Станеўскага, а таксама за ўсіх тых, хто падчас хросту атрымаў імя Юзаф. • У дзень 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў касцёлах маліліся за грамадзян краіны, а таксама аб тым, каб у ёй панавалі супакой, справядлівасць, узаемная любоў і згода. • Ад імя Касцёла на мітынгу-рэквіеме, прысвечанаму 75-годдзю Хатынскай трагедыі, прысутнічаў кс. Юрый Марціновіч, адказны за СМІ Гродзенскай дыяцэзіі.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**1 красавіка 1946 г.** – кс. Юзаф Савіцкі, *проб. Дзятлава;*

**4 красавіка 1961 г.** – кс. Стэфан Гародка, *проб. Белагруда;*

**6 красавіка 1968 г.** – кс. Генрых Герасімовіч, *проб.Градаўшчына.*

## АНОНСЫ

### ВЕЛІКОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ АРГАНІЗУЕЦЦА Ў СМАРГОНІ

**Музычны фестываль адбудзецца пры парафіі св. Міхала Арханёла ў араторыі св. Яна Боско. Ён пройдзе пад дэвізам "Алелюя, Пану заспявайма!" 7 красавіка. Пачатак у 19.00.**

*Салезіянская супольнасць у Смаргоні запрашае ўсіх жадаючых да ўдзелу, каб разам адсвяткаваць Хрыстовае ўваскрасенне.*

### УСЕБЕЛАРУСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У БАРАНАВІЧАХ

**Да ўдзелу ў духоўных практыкаваннях, якія адбудуцца 13–15 красавіка, запрашаюцца ўсе неабыякавыя да праблемы алкагалізму і наркаманіі ў нашай краіне.**

Рэкалекцыі арганізуе Душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі. Сустрэча будзе праходзіць у доме айцоў вербістаў па адрасе: г. Баранавічы, вул. Шаўчэнкі, 6.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 033) 325-57-64, Юрый Гапонік.*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ АРГАНІЗУЕ АЎТОБУСНУЮ ПІЛІГРЫМКУ Ў ПОЛЬШЧУ

**Парафія св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску ладзіць паломніцтва, праграмай якога прадугледжваецца наведванне вядомых за мяжой святынь.**

**Маршрут:**
Ваўкавыск – Познань – Гнезна – Ліхэнь – Ваўкавыск.
**Выезд** – 15 красавіка ў 18.00.
**Працягласць пілігрымкі** – 3 дні.

*Тэлефон для даведак: (8 029) 313-65-64, кс. Алег Дуль.*

У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі спадарыню **Трацкевіч (у дзявоцтве Аляксеенка) Раісу Віктараўну,** якая ў 1978 годзе ў парафіяльным касцёле Адведзінаў НПМ у Вішневе (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія) заключыла сужэнскі саюз са спадаром **Трацкевіч Станіславам,** просім звярнуцца ў сядзібу Касцёльнага суда ў Гродне (вул. К. Маркса, 4) або патэлефанаваць па нумары (8 0152) 75-64-37.

Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці валодаюць якой-небудзь інфармацыяй аб месцы побыту спадарыні Трацкевіч Раісы Віктараўны, просім перадаць гэтую інфармацыю ў Касцёльны суд.

**Рэдакцыя "Слова Жыцця" выказвае вялікую ўдзячнасць вернікам парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску, якія ахвяравалі велікапосную міласціну на карысць развіцця каталіцкіх СМІ Гродзенскай дыяцэзіі. Няхай добры Бог Вам аддзячыць!**

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу
**Віктару Захарэўскаму, яго бацькам і ўсім родным**
у сувязі са смерцю дзядулі Уладзіміра выказваем словы шчырага жалю, спачування і хрысціянскай падтрымкі. Яднаемся з Вамі ў малітве, падзяляючы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог прыме памерлага ў свае Валадарствы, а Вам дадасць сіл, каб перажыць цяжар страты роднага чалавека.

*Парафіяне з касцёлаў у Раготне і Дварцы*

# Ад шчырага сэрца

**Глыбокапаважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Юрыю Марціновічу, Паўлу Салабуду, Валерыю Быкоўскаму, Яраславу Грынашкевічу, Алегу Канановічу і Яну Раманоўскаму**

з нагоды Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай радасць Уваскрасення напаўняе Вашыя сэрцы супакоем і любоўю. Шчыра дзякуем за паслугу на карысць Богу і людзям, за абвяшчэнне Божага слова і клопат пра кожнага чалавека.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаю сардэчныя пажаданні: няхай уваскрослы Хрыстос, Збаўца свету, адорвае Вас сваімі ласкамі, сапраўднай радасцю і супакоем, Найсвяцейшая Маці моцна прытуляе да сябе і напаўняе сэрца любоўю, а Святы Дух шчодра спасылае свае дары.

*С. Ірэна Златкоўская, Генеральная настаяцельніца Супольнасці сясцёр дапаможніц чыстцовым душам*

**Паважанаму Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем здароўя, стойкасці ў пастырскай паслузе, апекі Божай Маці і людской зычлівасці. Няхай міласэрны Бог адорвае Цябе ўсімі сваімі ласкамі, жыццёвы шлях будзе шчаслівы і блаславёны, а служэнне прыносіць радасць, задавальненне і шчодры плён.

*Любячая мама з сям'ёй*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму і Антонію Дзям'янку, Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю і ўсім Ксяндзам Гродзенскай дыяцэзіі**

нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, удзячнасці, чулых людскіх сэрцаў. Няхай Езус – Найвышэйшы Святар – будзе Крыніцай супакою і радасці. Няхай штодзённа Вас блаславіць у душпастырскай паслузе. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Удзячныя парафіяне з Крупава*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус міласэрны праз нашы малітвы ўзнагародзіць Вас моцным здароўем і нястомнымі сіламі для абвяшчэння Евангелля Пана. Няхай энергія спадарожнічае Вам на працягу ўсяго жыцця.

*З малітвай, Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму і Антонію Дзям'янку, Ксяндзам Пробашчу Віталію Цыбульскаму, Раману Ялоўчыку, Віктару Савіцкаму, Леону Лішыку, Дзмітрыю Сядлецкаму,**

**Яну Балтрукевічу і Юрыю Жэгарыну, а таксама ўсім Сёстрам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

складаем шчырыя віншаванні з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят. Жадаем яснага ранку Уваскрасення, радасці, поспехаў у рэалізацыі планаў і задум, моцнага здароўя, дароў Святога Духа і ўсіх патрэбных Божых ласкаў. Няхай на Вашых тварах зіхацяць добрыя ўсмешкі, а ў душы пануе супакой. Памятаем пра Вас у сваіх малітвах. Вясёлых свят!

*Парафіяне з Уселюба*

**Глыбокапаважанаму Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых дароў Святога Духа, апекі Божай Маці, моцнага здароўя і душэўнага супакою, неабходных сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай Добры Пастыр вядзе Вас праз жыццё, удзяляючы патрэбныя ласкі для выканання даручанай місіі.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка"*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю**

з нагоды свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні. Самым цудоўным для чалавека з'яўляецца збаўленне яго душы. Наш дарагі Ксёндз Пробашч нястомна працуе над гэтым. Сэрцы парафіян напоўнены любоўю, таму мы просім Усемагутнага, каб адорваў нашага Ксяндза моцным здароўем на доўгія гады жыцця і поспехамі ў душпастырскай працы. Шчасці Божа!

*Ружанцовае кола Божай Міласэрнасці з Крупава*

**Паважанаму Айцу Анджэю Ядкоўскаму**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл на кожны дзень душпастырскай паслугі, людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дадаюць сіл і цярплівасці.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Павайбу, Юрыю Марціновічу, Юрыю Свіслоцкаму, Юзафу Ханьчыцу, Аляксандру Севасцьяновічу, Валерыю Быкоўскаму, Вітольду Лазавіцкаму, Айцам Казіміру Енджэйчаку і Антонію Пажэцкаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні: усіх Божых ласкаў, апекі Панны Марыі, блаславення ад уваскрослага Збаўцы і моцнага здароўя на кожны дзень жыцця. Радасная Алелюя!

*Францішканскі ордэн свецкіх, апостальства "Маргарытка", Колы Жывога Ружанца і вернікі з парафіі Сапоцкін*

**Паважаным Сёстрам Гарэцці Міленкевіч, Эўхарыі Хульбуй,**

**Юліце Пятровай, Паўле Радзівілка**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, спакойных дзён у Божай ласцы, людской дабрыні. Няхай Святы Дух асвячае кожны дзень Вашага жыцця, Хрыстос заўсёды будзе Сябрам, а служэнне Богу і людзям прыносіць задавальненне і шчодры плён.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Сапоцкін*

**Паважанай Сястры Гарэцці Міленкевіч**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, душэўнага супакою, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці. Дзякуем за шчырую малітву і адданую працу ў нашай парафіі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці, а святая Заступніца нястомна ахоўвае і дапамагае крочыць за Хрыстом.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Сапоцкін*

**Паважанаму Ксяндзу Рычарду Пэрчаку**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, штодзённай радасці і зычлівасці ад людзей навокал. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Дзітвы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Дня святара і Вялікадня перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус шчодра адорыць Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем і душэўным супакоем. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя няспынна Вамі апекуецца, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, добрае сэрца і малітву.

*Удзячныя вернікі з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**Паважаныя Айцы Пробашч Андрэй Агель і Аляксандр Махнач!**

З нагоды Дня святара і Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, нястомнай радасці, душэўнага супакою, аптымізму, поспехаў у паслузе на карысць Богу і людзям. Няхай уваскрослы Збаўца штодзённа ўдзяляе Вам блаславенне, Святы Дух спасылае свае дары, а Маці Божая атуляе мацярынскай любоўю і апекай.

*З павагай і малітвай, вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божага блаславення. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены здароўем, шчасцем і радасцю. Няхай Святы Дух асвячае і вядзе па Божых сцежках, Найсвяцейшая

Маці апекуецца Вамі, а праца на ніве Пана прыносіць шчодры плён. Шчасці Божа!

*Суполка "Equipes Notre-Dame" з парафіі Суботнікі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды 35-годдзя перасылаем шмат сардэчных пажаданняў. Няхай Езух Хрыстус, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, блаславіць кожны Ваш дзень, Божая Маці ахінае апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу і нястомна адорвае сваімі ласкамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена любоўю і супакоем.

*Касцёльны камітэт, парафіяне і дзеці з Жамыслаўля*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ваш шлях заўсёды асвячае Найсвяцейшая Маці, добры Езус трымае Вас каля свайго сэрца, адорвае сваім блаславеннем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух будзе бясконца шчодрым на свае дары. Жадаем таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, дабра, радасці, цеплыні і поспехаў у душпастырскай працы.

*Парафіяне з касцёла Імя НПМ, Вярэйкі*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Астукевічу і Віталію Бяленіку, а таксама дарагім Сёстрам, якія служаць у нашай парафіі,**

з нагоды Велікодных свят перасылаем самыя найлепшыя пажаданні. Няхай Бог спашле на Вас усе неабходныя ласкі, Божая Маці ахоўвае і апекуецца ў кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух нястомна адорвае сваімі дарамі. Дзякуем за добрыя сэрцы і самаадданую працу. Радасная Алелюя!

*Парафіяне з Індуры*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Шанчуку**

з нагоды Дня святара і свят Змёртвыхпаўстання Пана перасылаем мноства найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы, нязгаснай любові і веры, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Бог заўсёды і ўсюды Вас блаславіць і ўзнагароджвае за нястомную працу і малітву.

*Парафіяне з Гожы*

**Паважаны Ксёндз Дзяніс Шмыгін!**

З нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем, каб Ваша жыццё было шчаслівым і блаславёным. Няхай уваскрослы Езус, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, вядзе Вас па прыгожай, хоць і нялёгкай дарозе пакликання. Няхай Божая Маці заўсёды Вамі апекуецца, а Святы Дух асвячае святарскі шлях. Шчасці Божа!

*Удзячныя парафіяне з касцёла Звеставання НПМ, Міжэрычы*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Віталій Чурган!**

З нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, неабходных Божых ласкаў, добрых і зычлівых парафіян. Няхай уваскрослы Езус блаславіць Вас, Найсвяцейшая Маці апекуецца, а Святы Дух асвятляе святарскі шлях.

*Ружанцовае кола НПМ Тракельскай і парафіяне з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю, дарагім Сёстрам Ганне і Агнешцы, Кансэкраваным Удовам Сабіне і Зоф'і**

з нагоды свят Вялікадня ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, Божага блаславення, апекі Найсвяцейшай Маці, дапамогі Святога Духа. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас сваімі ласкамі, мудрасцю, любоўю. Дзякуем за нястомную працу, духоўную апеку, малітву і дабрыню. Вясёлых свят!

*Парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах, вернікі з Сурвілішкаў*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Гавецкаму і Алегу Яновічу**

з нагоды Велікодных свят складаем найлепшыя пажаданні. Няхай уваскрослы Хрыстос дапамагае Вам у штодзённай паслузе, дадаючы сілы і моцы ў здзяйсненні ўсіх добрых намераў, жыццё няхай плыве ў супакоі, а праца прыносіць шчодры плён. Няхай Бог адорвае моцным здароўем на доўгія гады, а Ваша вера, шчырасць і самаадданасць будуць добрым прыкладам для пераймання.

*Парафіяне з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавецкаму**

з нагоды Дня нараджэння, Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні. Блаславёны ночы цень і кожны новы Божы дзень. Блаславёны кожны крок па тысячы зямных дарог. Блаславёныя святыя далоні і захопленыя срэбрам скроні. Няхай жыццё ў радасці мінае, а здароўе і шчасце заўжды спрыяе! Няхай уваскрослы Хрыстос ва ўсім Вам дапамагае, а Панна Марыя і Святы Дух адорваюць сваімі ласкамі. Радасная Алелюя!

*Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Ян Гавецкі!**

З нагоды Дня нараджэння перасылаем Вам сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, Божага блаславення на кожны дзень. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае сваімі дарамі і асвячае святарскі шлях.

*Вернікі з Вігушкаў, Галімшчыны і Сакавічаў*

**Каханаму сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, сілы ў штодзённай працы, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама шчодрых Божых ласкаў. Няхай Твой святарскі шлях будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці!

*Бацькі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Беланосу і Яраславу Грынашкевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою і добразычлівасці людзей побач. Няхай уваскрослы Хрыстос узнагародзіць Вас сваімі ласкамі. Радасная Алелюя!

*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем шмат здароўя і доўгіх гадоў у святарстве. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш шлях, а Божая любоў і апека Найсвяцейшай Маці дадае сіл і цярплівасці. Сардэчна дзякуем за дапамогу ў духоўным узрастанні і сталенні, за малітву і працу ў нашай парафіі, а Богу – за тое, што паслаў нам Вас. Радасных свят!

*Удзячныя парафіяне і члены апостальства "Маргарытка" з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіславу Сурвілу**

з нагоды Дня нараджэння і Велікодных свят ад усяго сэрца перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, жыццё – доўгім, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай Вас заўсёды ахінаюць промні Божай міласэрнасці, Езус стала валадарыць у сэрцы, Святы Дух адорвае сваімі ласкамі, а Божая Маці няспынна Вамі апекуецца. Шчыра дзякуем за клопат аб парафіянах і святыні.

*Удзячныя вернікі з парафіі Войстам*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага блаславення, апекі Найсвяцейшай Маці, здароўя, нястомнасці ў душпастырскім служэнні. Няхай Усемагутны адорыць Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Марыя дапамагае заўсёды і ўсюды. Радасных свят!

*З павагай і малітвай, вернікі з в. Малінавая*

**Паважаным Ксяндзам Артуру Малафею і Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, а таксама людской дабрыні. Дзякуем за адкрытае сэрца, увагу, час і веды, якімі дзеліцеся з намі. Няхай уваскрослы Хрыстос Вас блаславіць!

*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

працяг на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважаным Ксяндзу Яну Рэйшалю і Сястры Ганне Насевіч**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, шчасця. Няхай уваскрослы Хрыстос благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай. Цудоўнага плёну на ніве Пана!

*Парафіяне з касцёла ў Жалудку, вернікі з капліцы Ліпічна*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, сілы і цярплівасці на святарскім шляху. Вы аддаеце нам свае маладыя гады, здароўе, здольнасці, сэрца, каб наблізіць нас да Бога. Шчыра дзякуем за гэта! Няхай Святы Дух няспынна спасылае на Вас свае дары, святло Уваскрасення Хрыста асвячае святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дададуць сіл.

*З малітвай і павагай, вернікі з парафіі св. Юрыя ў Варнянах і Вароне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Дзмітрыю Несцеру і Юрыю Марціновічу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя і радасці. Няхай Езус, які паслаў Вас на сваю ніву, дадае сіл для выканання святарскай паслугі. Няхай рэалізуюцца ўсе планы і здзяйсняюцца ўсе мары. Жадаем, каб Святы Дух дадаваў сіл, а Божая Маці нястомна апекавалася. Вельмі ўдзячны Вам за добрыя сэрцы, зычлівасць і малітвы. Радаснага Алелюя!

*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла ў Геранёнах, вернікі з капліцы Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці, дапамогі Святога Духа. Няхай змёртвыхпаўсталы Збаўца адорыць Вас сваімі ласкамі, мудрасцю і міласцю. Дзякуем за нястомную працу, духоўную апеку, малітву і дабрыню. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Вернікі з в. Еўлашы, парафія Ляцк*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат дзён у Божай ласцы і дабрыні ад людзей. Няхай Святы Дух распаўсюджвае сваё святло на кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Хрыстос заўсёды будзе Вам Сябрам у служэ Богу і людзям.

*Станіслава Сідаровіч і Люцына Лабэцкая, парафія Воўпа*

**Паважаным Ксяндзам Віктару Мыслюку, Леону Лішыку і Юрыю Марціновічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл на кожны дзень паслугі і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Маці Божай дададуць моцы і цярплівасці.

*Ружанцовыя колы МБ Нястомнай Дапамогі і св. Юзафа з парафіі Воўпа*

**Паважаным Айцам Пробашчу Антонію Пажэцкаму, Паўлу Раманчуку, Станіславу Садоўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем духоўнай радасці, здзяйснення ўсіх мэт і задум, якія ёсць у Вашых сэрцах. Няхай яны і далей спрыяюць развіццю нашай веры і міласэрнасці, разуменню сэнсу жыцця, еднасці парафіян. Сардэчна дзякуем за шчырую малітву, любоў і цярплівасць.

*Рыцарства Беззаганнай*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Эдуарду Сінкевічу, Аляксандру Фядотаву, Віктару Сініцкаму, а таксама Сёстрам Аляксандры і Дароце**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай радасць Змёртвыхпаўстання Збаўцы напоўніць душы супакоем і любоўю, робячы Вас сапраўднымі апосталамі Праўды. Ад усяго сэрца дзякуем за працу, малітву, дабрыню, абвяшчэнне Божага слова і клопат пра кожнага з нас.

*Легіён Марыі, малітоўная група Добрага Пастыра і Касцёльны камітэт з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Эдуарду Сінкевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы, нязгаснай любові і веры, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Бог благаслаўляе Вас і ўзнагароджвае за нястомную працу і малітву.

*Легіён Марыі, малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Станіславу Пацыну, Паўлу Раманоўскаму, Вітольду Лазавіцкаму, Андрэю Радзевічу, Паўлу Беланосу, Яну Раманоўскаму, Антонію Грэмзу, а таксама ўсім Ксяндзам і Рэкалекцыяністам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем добрага здароўя, шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста, дароў Святога Духа, Божай радасці, спакою і сіл у абвяшчэнні Добрай Навіны, апекі Найсвяцейшай Маці і цудоўнага плёну на ніве Пана. Няхай Вашыя сэрцы пульсуюць у рытме Сэрца Езуса, а жыццёвы шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны.

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской зычлівасці, а таксама апекі Маці Божай і дапамогі Святога Духа. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*З малітвай, Ружанцовыя колы, парафія Капцёўка*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Сядлецкаму**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай Вас заўсёды акружаюць праменні Божай міласэрнасці, Езус валадарыць у сэрцы і ласкава адорвае сваімі дарамі, а святы Заступнік заўсёды стаіць побач.

*Парафіяне з вёсак Навіянка і Пашэлі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, радасці, сіл, Божага благаслаўлення на кожны дзень. Няхай уваскрослы Езус вядзе Вас найпрыгажэйшай дарогай да святасці. Аддзяч, Божа, за паслугу ў нашай парафіі і прысутнасць сярод нас.

*З павагай, удзячныя парафіянкі з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем благаслаўлення ад уваскрослага Хрыста, дароў Святога Духа, апекі Божай Маці, а таксама моцнага здароўя, сілы і душэўнага супакою на кожны дзень, мудрасці і поспехаў у душпастырскай працы. Няхай на Вашым твары заўсёды ззяе ўсмешка, а вочы гараць ад радасці. Шчыра ўдзячныя Вам за любоў і клопат аб парафіянах і святыні.

*Вернікі з касцёлаў у Раготне і Дварцы*

**Паважаным Ксяндзам Мар'яну Хаменю і Пятру Вішнеўскаму**

з нагоды Дня святара, свят Уваскрасення Пана і свята Божай Міласэрнасці жадаем моцнага здароўя, сіл і ўсіх патрэбных ласкаў ад уваскрослага Хрыста. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, Маці Божая няхай апекуецца Вамі, Анёл-ахоўнік заўсёды аберагае, а святы Заступнік чувае і вядзе па дарозе, асвечанай Божай любоўю і міласэрнасцю. Дзякуем за малітвы і святарскую паслугу, за дапамогу ў цяжкія хвіліны жыцця.

*Вернікі з парафіі Шылавічы*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Алегу Дулю і Юрыю Марціновічу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні: Божых ласкаў, апекі Божай Маці, шчодрых дароў Святога Духа, здароўя, сіл і разважлівасці ў выкананні душпастырскай паслугі. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас сваёй міласэрнасцю і будзе Крыніцай любові ды супакою ў штодзённым жыцці. Дарагі Пробашч, дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, за тое, што выхоўваеце дзяцей і моладзь у веры і любові да Бога, вучыце нас быць адказнымі за свае ўчынкі. Ксяндзу Юрыю ўдзячны за праведзеныя ў парафіі рэкалекцыі, праз якія Бог дакрануўся да нашых сэрцаў.

*Ружанцовыя колы, вернікі, дзеці і моладзь з парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Антонію Грэмзу**

з нагоды Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем усяго найлепшага: Божага благаслаўлення на доўгія гады жыцця, апекі Божай Маці, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, сіл і стойкасці на святарскім шляху, штодзённай радасці і супакою ў сэрцы.

*Сям'я Падзелінскіх*

**Паважаным Айцам Пробашчу Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану, Эдуарду Пяцельчыцу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай радасць і спакой напаўняюць Вашыя сэрцы, а ўваскрослы Хрыстос, які паклікаў Вас да святарства, штодзённа ўзмацняе і адорвае сваімі ласкамі.

*З малітвай і ўдзячнасцю, вернікі з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, сіл і стойкасці ў працы. Няхай Найсвяцейшая Маці мае Вас у сваёй апецы, а Дух Святы асвячае сваім святлом кожны дзень жыцця.

*Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, стойкасці, цярплівасці ў святарскай паслузе, задавальнення ад выканання душпастырскіх абавязкаў. Жадаем таксама дароў Святога Духа, штодзённай апекі Божай Маці і людской добразычлівасці. Няхай уваскрослы Езус умацоўвае Вашу веру, становячыся Крыніцай супакою і памяркоўнасці.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Астрыны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму і ўсім Святарам дэканата Вялікага Бераставіца**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус – уваскрослы Збаўца свету – адорвае Вас сваімі ласкамі, радасцю і супакоем. Вясёлага Алелюя!

*Францішканскі ордэн свецкіх, Касцёльны камітэт і парафіяне з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважаным Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму і Айцу Анджэю Ядкоўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской зычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дададуць сіл і цярплівасці. Дзякуем за распалены агонь веры, малітву, адкрытыя сэрцы і адданую паслугу Богу і людзям.

*Парафіяне і Ружанцовае кола са Станевічаў*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юзафу Багдзевічу і Юрыю Ясевічу, а таксама нашым дарагім Сёстрам**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, вытрымкі і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш жыццёвы шлях, а Божая міласэрнасць дадае сіл і цярплівасці. Дзякуем за добрае і чулае сэрца, клопат аб нас і святыні, а Пану Богу – за тое, што паслаў нам Вас.

*Удзячныя вернікі з парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца складаем найлепшыя пажаданні: здароўя на доўгія гады, шчасця, радасці, поспехаў у душпастырскай працы, усіх Божых ласкаў на святарскім шляху. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цеплынёй, людской зычлівасцю, супакоем. Няхай уваскрослы Хрыстос заўсёды апекуецца Вамі!

*Парафіяне з в. Старое Сяло*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Дня нараджэння, Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін! Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, уваскрослы Хрыстос напаўняе жыццё святлом і любоўю, а Марыя заўсёды апекуецца Вамі.

*З павагай, парафіяне, апостальства "Маргарытка", Ружанцовае кола ў інтэнцыі дзяцей з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Забалаці*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, святла, натхнення і сіл у душпастырскай паслузе, а таксама Божага благаслаўлення. Няхай усе мары і задумы здзяйсняюцца, а побач будуць добразычлівыя людзі. Радасных свят!

*Вернікі з касцёла ў Мсцібаве, капліц у Бортніках і Вердамічах*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Філіпчыку, Юрыю Садоўскаму, Яну Кузюку, Дзмітрыю Леўчыку, Аляксандру Вараб'ёву і Паўлу Эйсманту**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, дароў Святога Духа, апекі Божай Маці. Няхай радасць і супакой напаўняюць Вашыя сэрцы, а ўваскрослы Хрыстос, які паклікаў да святарства, штодзённа ўзмацняе і адорвае сваімі ласкамі. Радаснага Алелюя!

*Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі і парафіяне з касцёла св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Васількевічу**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, поспехаў, патрэбных Божых ласкаў. Няхай Езус уваскрослы асвячае жыццёвы шлях і напаўняе душу спакоем, а Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі і атуляе сваім плашчом.

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу, Дзмітрыю Папенюку, Андрэю Радзевічу, Віктару Мыслюку і ўсім Рэкалекцыяністам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

з нагоды Вялікага чацвярга жадаем нястомнай адновы Святарства праз Святога Духа. Молім аб тым, каб кожны з Вас знаходзіў у сваім сэрцы і стала пацвярджаў жыццём сапраўднае значэнне святарскага паклікання. Дзякуем Хрысту за тое, што выбраў Вас.

*З хрысціянскім прывітаннем, парафіяне з Рос*

**Паважаны Ксёндз Віктар Ханько!**

З нагоды Дня святара жадаем нанова распаліць у сабе Божую харызму і яшчэ больш горача перажываць радасць ад выключнага аддавання сябе Хрысту. Няхай цяжкасці трывання пры Езусе будуць узнагароджаны радасцю ад Уваскрасення. Шчыра дзякуем за сакраманты, якія нам удзяляеш, за тое, што корміш нас Божым Целам і Яго словам, адкрываеш дар Эўхарыстыі як крыніцу сіл, моцы і святла ў штодзённым жыцці.

*З хрысціянскім прывітаннем, сябры*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Сядлецкаму і Каноніку Тадэвушу Качану**

з нагоды Велікодных свят складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дададуць сіл.

*Парафіяне з вёсак Навіянка і Пашэлі*

● працяг віншаванняў у наступным нумары

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Палііграфістаў, 4; нумар заказу 1874; тыраж 4945; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная